ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1964 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Англіі: Rev. J. Hermanovič, Marian House. Holden Ave. London, N. 12. Gt. Britain.

У Задзіночаных Штатах: Mr. Antony Bielenis. 2042 W. St. Paul Ave. Chicago, 47. Ill. U.S.A.; Mr. B. Danilovich. 303 Hovard Str. New Brunswick. New Jersey. U.S.A.; Mr. G. Gosciejew 3416 W. 49-th Str. Cleveland, 2. Ohio. U.S.A.; Mr. Ch. Najdziuk. 833½ N. Coronado Str. Los Angeles, Calif. U.S.A.

У Аўстраліі: Mr. M. Nikan. 14 Steel Str. Spotswood-Melbourn. Vic., Australia.

У Канадзе: Mr. K. Akula. 57 Riverdale Ave. Toronto 6. Ont., Kanada.

У Нямеччыне: Mgr. U. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE.
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

## ЗЬМЕСТ

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XII СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ 1964 № 82

## Нашая мэта, надзея і дарога

Узнаўляючы наш «Двумесячны Часапіс Беларускае Рэлігійнае Думкі», ставім сабе пытаньне ў тых самых словах, якія паставіў на пачатку II Сэсіі Сабору Папа Павал VI : «Дарагія Браты! Дзе пачынаецца наша дарога? Якую дарогу (шлях) выбраць, калі ідзе аб тое, каб астацца больш паслушным Божаму праву? . . Наступна, якую мэту вызначаем на гэтай дарозе?» «На гэтыя тры пытаньні, вельмі простыя для розуму, аднак найвышэйшай вагі, адзін толькі існуе адказ, які — як мы думаем — у гэтай хвіліне мы павінны паўтарыць і аб'явіць сьвету: Хрыстос! Хрыстос, паўтараем, ёсьць нашым пачаткам. Хрыстос ёсьць нашым Правадыром і Дарогай (Шляхам). Хрыстос ёсьць Надзеяй і нашай Мэтай».

І наш дырэктыўны лёзунг-пароль ёсьць той самы: «Хрыстос — наш Шлях і Правадыр, Хрыстос — наша Надзея і Мэта». Гэтым мы кіраваліся, выдаючы наш гэты часапіс больш 10-ці гадоў і гэтым будзем кіравацца далей, узнаўляючы яго.

Розныя «шляхі» праводзяць людзі ў сваіх краёх. Кажуць, што край толькі тады можа нармальна разьвівацца і жыць у дастатку, калі пастараецца правесьці добрыя дарогі. Аднак-жа ані прыродны дастатак, ані шляхі-дарогі да яго, ані нават самае бясьпечнае і культурнае жыцьцё — гэта яшчэ ня ёсьць найвышэйшая мэта чалавека. Калі-бы чалавек агранічыўся толькі гэтым сьветам, дык мусіў-бы і згінуць-змарнець з гэтым сьветам, які састарэе і памрэ. Значыць, самым толькі дачасным-прыродным жыцьцём могуць здаволіцца адны жывёлы-зьвяры і ўсякая жывіна. Чалавек пакліканы Богам да вечнага бытаваньня. І чалавек можа асягнуць нават на зямлі магчымае шчасьце, калі будзе будаваць сабе «дарогу да Бога», калі будзе ладзіць сваё жыцьцё найбольш шчасьлівае і на зямлі і на небе. Адно другому не пярэчыць, а памагае і гэтак творыцца нармальны, разумны, добры чалавек.

Дзеля таго, што людзі ня ўмелі знайсьці «дарогі, або знаходзячы зараз-жа трацілі, а зблудзіўшы ня мелі моцнай волі і сілы паўстаць і вярнуцца на шлях, — Міласэрны Бог паслаў на зямлю свайго Адзінароднага Сына і Сын Божы, стаўшы Чалавекам, навучыў, выслужыў і паказаў пэўную Дарогу-Шлях да Бога і да неба. І вось Папа Павал VI прыпамінае гэтую Божую навуку, якую пакінуў нам Хрыстос: «Я ёсьць Дарога, Праўда і Жыцьцё: хто ідзе за Мною, той ня бродзіць у цемры».

У гэтым духу, паводле гэтай праграмы мы так-жа хочамо ісьці і будземо далей выдаваць наш часапіс «БОЖЫМ ШЛЯХАМ». Просімо Дарагіх Чытачоў ласкава прыняць наш Часапіс і ня толькі чытаць яго, але і супрацоўнічаць з намі: прысылаць нам свае заўвагі, пытаньні, весткі, крытыку, а так-жа, па магчымасьці, свае працы і артыкулы. Кожнаму ведама, што без матар'яльнае «базы», значыць, без аплаты і ўспамогі ніякае выдавецтва існаваць ня можа. Мы мусімо церабіць «шлях», паказваць дарогу і весьці тым пуцём Божых падарожнікаў, дык і справядліва, што трэба нам памагаць. Калі-б мы самі дапусьцілі якую памылку, просімо нам бяз сумніву паказаць яе, бо вельмі шкода часу і шкода нашага жыцьця траціць на блудныя дарогі.

Дык пойдземо наперад адважна і вытрывала за Хрыстом!

**Рэдакцыя**

УСІМ ДАРАГІМ СУРОДЗІЧАМ
НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ І НА ЧУЖЫНЕ
РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
ШЛЕ ШЧЫРЫЯ ПРЫВІТАНЬНІ
І ПАЖАДАНЬНІ ШЧАСЬЛІВАГА
НОВАГА ГОДУ!

# ПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ
## Яго Дастойнасьці Ўладыкі Чэслава

ДАРАГІЯ БРАТЫ І СЁСТРЫ!

*Мы помнім, калі ў ціхі КАЛЯДНЫ ВЕЧАР руплівая маці прыгатаўляла посную куцьцю і мы яе пыталі:*

*— Мама, чаму так шмат сяньня гатуеш?*

*— Сяньня КАЛЯДЫ, сынку, сяньня ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ . . .*

*І мы верылі словам маці і мы пасьцілі цярпліва — аж пакуль не загарацца на небе зоры, каб тады сесьці за стол, пакрыты сенам і белым кужэльным абрусам.*

*Стагодзьдзі дзеляць нас ад нараджэньня Хрыста, але там дзе адбываецца сямейны абрад куцьці, дзе чутны царкоўны звон і сьпевы, мы верым, што Хрыстос родзіцца сяньня. Прасторы і мілі дзеляць Беларусь ад ізраэльскага гораду Бэтлеему, а нам здаецца, што гэты слаўны Давідаў горад дзесьці ў нашай ваколіцы, ля нашай дубровы . . .*

*У калядках, у глыбокіх дагматычным зьместам царкоўных песьнях чутно рэха сьпеву анёлаў: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі супакой людзям добрай волі».*

*Мы моцна зжыліся з гэтым вялікім сьвятам нараджэньня Хрыста. У літургіі, у нашай народнай абраднасьці, у нашай глыбокай веры ляжаць карэньні хрысьціянскага адчуваньня і перажываньня Каляд.*

*Але прыгледзьмася крыху бліжэй да зьместу сяньняшняга сьвята.*

*Сын Божы, які стаўся чалавекам і нарадзіўся ў Бэтлееем, прыняў людзкую натуру, інакш мы кажам: уцелавіўся, і гэта таму, каб вырваць чалавека з ярма граху, каб зрабіць яго сынам Божым. Таму Апостал Пётр пісаў у сваім пасланьні:*

*«Але вы — выбраны род, царскае сьвятарства, народ сьвяты, людзі адабраныя, каб абвяшчаць цноты паклікаўшага вас з цемры ў цудоўнае сьвятло яго: некалі не народ, а цяпер народ Божы». (І Пасл. 2, 9-10).*

*О, каб мы маглі ўцяміць, як вялікая годнасьць чалавека!*

*Няхай нам дапаможа гэта зразумець наступнае апавяданьне.*

*

*Калісьці ў сівую мінуўшчыну на зямлі старадаўняй Крывіі жыла ля лесу адна сям'я. Бацька, галава сям'і, летам гадаваў пчол, зімой шчапаў лучыну і віў аборы. Маці летам зьбірала і сушыла грыбы, варыла ягады, а зімою вучыла дзетак маліцца і прала сваю доўгую і роўную як струна нітку на верацяно. Дзеці, хаця й не ў вялікай выгодзе, расьлі буйна і лятуцелі толькі аб тым, калі яны падрастуць і вырвуцца са свае сьціплае хаткі ў шырокі Божы сьвет і пажывуць раскашней і слаўней.*

*Здарылася, што ў блізкім ім лесе адбывалася паляваньне на мядзьведзя, у якім прыймаў удзел так-жа слаўны крывіцкі князь разам са сваімі вяльможамі і дваранамі. Выпаў аднак капрысны час. Непагадзь бушавала навонкі. Сьнегам і суччом біла ў вочы, сабакі вылі ад знобы, паляўнічыя самі пападалі ў прыгатаваныя для зьвера пасткі. Змучаны і зьзяблы князь уканцы быў рады, што выбіўся з лесу і апынуўся ля селішча лясьніка. Разам са сваёй дружынай зайшлі ў хату.*

*Лясьнік напачатку спалохаўся, зрабіўшы аднак чалабітную, прыймаў князя найлепш, як толькі ўмеў і мог. Стол пакрыўся мёдам-выпіўкай, грыбамі, дый знайшлося смачна прыгатаванае мяса лясной зьвярыны. Дзеці птушкамі ўвіхаліся, каб толькі дагадзіць госьцям.*

*Ну і што-ж сказаць? Князь быў вясёлы, лясьнік і яго сям'я шчасьлівыя, бо сталася тое, аб чым ніхто ня сьніў: убогі забыты домік лясьніка наведаў слаўны князь! . . . Бачна радасьць лясьніковай сям'і была вялікаю, бо не забылі аб ёй унукі і праўнукі, што пасьля некалькі вякоў жылі ў той самай мясцовасьці імі-ж названай у чэсьць крывіцкага князя Князявым.*

*Як там было ў сапраўднасьці з лясьнікам, яго сям'ёй і князем — не бяруся спраўджаць . . . Кожны народ мае свае пераказы і лягенды. Звычайна аднак у гісторыі народу ярка запісанымі застаюцца тыя здарэньні, дзе сустрэліся бяда з багацьцем, сьціпласьць са славаю.*

*Хрыстос — Сын Божы, кароль славы, доўга чаканы выбраным ізраэльскім народам і ўсімі людзьмі Збавіцель сьвету, прыйшоў да нас, стаўся адным з нас ува ўсім нам падобны за выняткам граху. Анёл паведамляў пастушкоў у ваколіцах Бэтлеему славамі: « . . . бо цяпер нарадзіўся вам у мястэчку Давідавым Збавіцель, каторы ёсьць Хрыстос Госпад і вось вам знак: вы знойдзіце Дзіця ў пялёнках, ляжучы ў ясьлях». (Лука II, 11-12).*

*Прыгожа сьпяваецца ў адней з калядніх песьняў:*

*Вечны — родзіцца нам сёньня!*
*Спадар сьвету — бяздомны!*
*Нескачатны — нам падобны!*
*Узгарджаны — акрыты славай!*
*Валадар вякоў — сьмяротны!*

*Як мы перад хвілінай чулі ў нашым расказе: лясьнік быў шчасьлівы, што нечакана зьявіўся да яго князь і вітаў яго шчыра, радасна, ахвярна.*

*А якжа-ж мы ды ўвесь сьвет вітаем нованароджанага Хрыста?*

*Нажаль, для некаторых Хрыстос — гэта лягэнда, міт; для іншых — жыдоўскі прарок, нявінна ўкрыжаваны. Для веруючых хрысьціян Ён ёсьць Сын Божы, Збавіцель сьвету, наймудрэйшы яго настаўнік і найлепшы дабрадзей.*

*Скаламучаны сучасны сьвет шукае з дня на дзень супакою і ня хоча бачыць, што супакой той плыве адтуль, дзе ціхім блескам сьвеціць бэтлеемская зорка, дзе гармонія анельскіх сьпеваў цешыць душы бедных пастушкоў. Мы разам з Апосталам Паўлам адновім нашу веру ў Хрыста, бо «Ён ёсьць вобраз Бога нябачнага, першародны ўсякага стварэньня, бо Ім створана ўсё, што на нябёсах і што на зямлі, бачнае і ня бачнае: ці то пасады, ці то дзяржавы, ці начальства, ці ўлады, — ўсё Ім і для Яго створана і Ён перш за ўсё, і ўсё ў Ім стаіць. І Ён ёсьць галава цела-Царквы: Ён — пачатак, першародны із мёртвых, каб быць ува ўсіх справах першым, бо спадабалася Богу, каб у Ім была поўнасьць усяго і каб праз Яго пагадзіць з сабою ўсё . . . » (Каляс. I, 15-20).*

*Дарагія Браты і Сёстры на Бацькаўшчыне і на Чужыне!*

*Хрыстос для нас усё і ўсім. Ягонай праўды не перамогуць хвалі бязбожжа, якія ўжо ад некалькі дзесяцігодзьдзяў імкнуцца разбурыць нашыя сьвятыні і ўзгадаваць дзікія няверуючыя ў Бога душы. Мы, каталікі і праваслаўныя, аднолькава верым у Хрыста і Яго праўду.*

*Хрыстос — князь сапраўднага супакою (Із. IX, 6) пераможа!*

*Рым, 24 сьнежня 1963 г.*

† Чэслаў Сіповіч

Тыт. Бп. Марыямітанскі
Апостольскі Візытатар Беларусаў.



*Аўдыенцыя Я. Д. Біскупа Часлава Сіповіча ў Папы Яна XXIII 20 жніўня 1960 г.*

# Успаміны аб а. Андрэю Цікоце

Пішу аб сьвятой памяці айцу Андрэю, сьвятару, архімандрыту, успаміны, якія будуць прыгодна выкарыстаны да поўнае біяграфіі ягонага жыцьця. І пішу аб фактах, у каторых я сам удзельнічаў, або аб каторых пэўна ведаю ад найбліжэйшых сьведкаў. Дык тут будуць даты, асобы, мейсцы і іншыя абставіны з Друі, Вільні, Рыму і з далёкага Усходу, а так-жа з Сібіру — з турмы ў горадзе Чыта — і з лягэраў па чыгунцы Тайшэт—Брацк—Заярск.

## ПАКУСЫ І ЦНОТЫ

Мы, беларускія сьвятары, якія працавалі ў Харбіне, доўга нічога ня ведалі аб ліквідацыі Грэка-Каталіцкае Царквы ў Заходняй Украіне



*Архімандрыт а. Андрэй Цікота*

(8. III. 1946) і аб насільным пераводзе вернікаў у «сталінскае праваславіе», як яго называлі украінцы. Калі гэтая вестка дайшла да нас у Харбін, калі мы чыталі аб мэтадах атэістаў і іхным дзіўным апостальстве, нам прыпомнілася падобная дзейнасьць у Расеі цара Мікалая І з 1839 г. падчас касаваньня Уніі на Беларусі. Мы былі пераканаAны, што дрэнную прыслугу Праваслаўнай Царкве зрабіў так люты цар Мікалай І, як і яшчэ горшы дыктатар Сталін. Здаецца, не магчыма было-б падумаць, каб Царква аднаго, а тымбольш другога аб гэтым прасіла. Мікалай і Сталін дзейнічалі падобна, але з розных матываў.

**Дзьве пакусы.** Усё грэка-каталіцкае духавенства ў Галіччыне і ў Беларусі, хто ня змог уцячы за граніцу, перажыло ў 1946 г. цяжкую пакусу — падпісацца на «сталінскую веру». Хто не падпісаў — быў высланы ў Сібір. У нас у Харбіне такая самая пакуса здарылася ў 1947 г.: тады праваслаўны мітрапаліт Нестар (Анісімов) прыслаў прапанову айцу Андрэю Цікоце, які быў тады Апостальскім Адміністратарам Грэка-Каталіцкае Царквы ў Манджурыі, перайсьці ў праваслаўе. Пры тым ён абяцаў, што а. Андрэя зробіць япіскапам і сваім вікарыям. На гэтую недарэчную прапанову а. Андрэй мітрапаліту не адказаў нічога.

Другая пакуса здарылася пару гадоў пазьней у лягэры ў Іркуцкай вобласьці. Было так: Перш зьявіўся да а. Андрэя ў лягэр дэлегат ад савецкага ўраду, палкоўнік, з прапановаю супрацоўніцтва, але а. Цікота не хацеў з ім гутарыць на гэтую тэму. Тады прыслалі да яго гэнэрала і гэты прапанаваў яму абняць уладу над Беларускаю Царкваю і мець надзор над сьвятарамі ў Беларусі. Усё гэта а. Андрэй адкінуў.

**Хвароба і сьмерць.** Праз які год пасьля таго здарэньня з савецкімі прадстаўнікамі а. Андрэй быў у лягэрнай бальніцы Нр. 038 Чукча, адзьдзел 2 паміж Тайшэтам і Брацкам. І я чуў ад таварышоў, якія былі ў той самай бальніцы, што калі ён адмовіўся ад таго інфарматарства, дык яго прызначылі да цяжкае працы — вазіць ваду саматугам. А трэба ведаць, што ў яго ад даўных часоў балелі ногі: бяз дай прычыны раптоўна тварылася запаленьне між пальцамі і тэмпэратура падымалася да сарака градусаў, а нават і

вышэй. У Харбіне др. Шультэйш і др. Усьпенскі на консіліюм у свой час памысна ліквідавалі запаленьне і ратавалі хворага. А ўдома, гэта значыць у нашай Харбінскай Місіі, вельмі старанна з вялікім знаўствам даглядаў а. Андрэя наш фэльчар Язэп Пашкевіч, прыяцель нашага законнага Марыянскага дому. Дзякуючы такой апецы ён мог хутка паправіцца і адразу браўся да працы; ён ніколі не пазваляў сабе адпачываць даўжэй. А ў турме, у горадзе Чыта, а. Андрэй пачаў зноў скаржыцца на ногі: хвароба аднавілася і да таго яшчэ ў Тайшэце на целе пачалі зьяўляцца дакучлівыя верады. Вось-жа паводля вестак, якія да мяне дайшлі, ад цяжкай працы і ад лекарскага недагляду, бо лягэрная ўлада сумысна і злосна не хацела яго лячыць, верады былі так запушчаны, што раны моцна сьмярдзелі, аж да таго, што таварышы не хацелі яго прыймаць у барак! Тымчасам нехта настрашыў лягэрную ўладу, што на выпадак сьмерці а. Цікоты яны будуць адказваць, бо ён ёсьць «важная асоба», дык неспадзявана пачалі яго лячыць, але было ўжо лішне позна — і 11 лютага 1952 году ён памёр.

Тыя, што аб ім мне гаварылі, былі захоплены ягонаю сьвятарскаю павагаю, перадсьмяротным супакоем, пагодаю духа і анельскаю цярплівасьцю.

**Вера і малітва.** Дня 22. 12. 1948 г. кітайскія камуністы ў Харбіне ліквідавалі нашую Каталіцкую Місію ўсходняга абраду, арыштавалі ўсіх сьвятароў на чале з архімандрытам Андрэям Цікота і назаўтра-ж вывезьлі нас на граніцу Манджурыі і выдалі бальшавіком у Сібір. Пры тым кітайцы тройчы паставілі нас у такія абставіны, што можна было спадзявацца раптоўнага расстрэлу. Мы тады асабліва шчыра маліліся, рыхтаваліся да сьмерці. І тут а. Андрэй выявіў такую мужнасьць, супакой і веру, што і на нас уплываў сваім дабратворным прыкладам, так што мы напярод гадзіліся з Божаю воляю. Але Бог не дапусьціў тады нашае сьмерці.

Кітайцы перадалі нас бальшавіком 25. XII. (фактычна прадалі!). Тыя нас завезьлі ў Чыту і там парассаджвалі ў адзіночкі. Сядзелі мы ў іх каля пяці месяцаў, пакуль трывала сьледзтва. Пасьля сьледзтва нас пасадзілі ў супольную камэру і там прышлося чакаць шэсьць месяцаў на пастанову завочнага суду з Масквы. Усім нам «далі» па 25 гадоў лягэраў.

У турме мы мелі шмат часу на малітву і выкарыстоўвалі гэтую магчымасьць на Божую хвалу. Кожны маліўся так, як яму дыктавала ягонае сэрца. Малітва а. Андрэя была настойлівая і вытрывалая. Ён не маліўся з прывычкі ані дзеля другіх людзей, бо так неяк з намі бывае, што часам мы молімся, як бачым што моляцца іншыя; або молімся, як кажуць «у сваю пару», а Андрэй-жа маліўся ані з баязьні, ці з жалю ў сваім няшчасьці, ані з прывычкі, ці запаліўшыся духам; і не маліўся з самага вырахаваньня, каб выпрасіць свабоду, ці зарабіць неба. Малітва а. Цікоты была натуральным актам, бяз ніякае штучнасьці, як праца, або адпачынак, як размова, або нават спрэчка: адным словам, ён так маліўся, як жыў — з поўным перакананьнем.

Калі бывала ён разважыў які плян і парадзіўся з другімі, а пасьля той плян праводзіў у жыцьцё, дык тады стаяў за яго так цьвёрда, аргумэнтаваў так аўтарытэтна, што немагчыма было не згадзіцца з ім. Можна сказаць, што таксама а. Андрэй «аргумэнтаваў» у малітве перад самым Госпадам Богам, што Бог ня мог з ім не згадзіцца! Разумею гэта так, як прадстаўляецца ў Эвангельлі. Сам Ісус Хрыстос жадаў такое веры і такое малітвы, кажучы: Каб вы мелі веру, як гарчычнае зярнё і сказалі-б гэтай гары: зрушся і кіньця ў мора, і каб вы не сумняваліся, дык яно сталася-б вам. І а. Андрэй не сумняваўся.

За час нашага супольнага жыцьця і працы на волі я чуў многа ягоных навукаў, казаньняў — парахвіяльных, місійных, а так-жа законных канфэрэнцыяў і часам заўважваў у іх нястачу прыгожых зваротаў, брак адчуваньня прыроды, мяккасьці пачуцьцяў; але затое ён сам і слухачы былі ўцягнены ў моц і сілу ягоных пераканаўчых доказаў. А праціўнікам а. Андрэй даваў такі ясны і моцны адпор, што слухачы набіралі перакананьня згоднага з прапаведнікам і згоднага з Эвангэльлем: слухачы выходзілі з сьвятыні другімі людзьмі, каторыя былі ня толькі мімалётна запалены, але глыбока і паважна задуманыя. Пры тым і вонкавыя характэрныя прыметы а. Андрэя рабілі моцнае ўражаньне: ягоная магутная фігура, маестатычная пастава, а ў усходнім абрадзе яшчэ да таго патрыярхальная барада і ягоны тубальны басавы голас, цьвёрда акцэнтаваныя сказы — усё гэта гаварыла аб моцнай волі і аб вялікім чалавеку. Агульна трэба сказаць, што ягонаю самаю выдатнаю цнотаю была глыбокая, пакорная і вытрывалая — аж да мучаніцкае сьмерці — вера і малітва. Такая вера і малітва «прабівае неба», фармуе моцныя характары і людзей сьвятых.

Нават і тое, што а. Андрэй часта паўтараўся ў сваіх навуках і казаньнях, неяк дзіўна не прыядалася, бо ў яго ўсё і заўсёды плыло з веры і з глыбіні душы, як калісьці ў Івана Хрысьціцеля, які ўсьцяж паўтараў: «Чыніце пакуту!». Аднак можна сказаць, што а. Андрэй паўтараўся творча, не даслоўна, але з адменным перажываньнем і прыстасаваньнем да кожнае новае нагоды.

**Працавітасьць.** Другая вызначная цнота а. Андрэя была працавітасьць. Гэта была цнота ня прыродная, але, так сказаць, набытая. З маладых гадоў ён быў (я яго знаў ад 1909 г.) даволі пуставаты і крышку гультаяваты. Здабываў навуку лёгка і экзаміны здаваў першым вучнем, дзякуючы сваёй вялікай здольнасьці, лёгічнаму ўняцьцю і ўспрыйманьню матэрыялу, аднак тэорыі ня прысвойваў адпаведна да свайго таленту, моваў ня вывучаў у дастатковай меры; праўда, гэтую нястачу апраўдвае да пэўнае ступені ягоная шматбаковая вонкавая дзейнасьць, якая вычэрпвала ягоныя сілы і займала ўвесь час. Дзеля таго ён ня меў магчымасьці дастаткова паглыбляць веды, чытаў мала і тэорэтычна ня быў моцны, каб стаяць на перадавых пазіцыях разьвіцьця навукі. Калі аднак здараліся нейкія новыя праблемы ў працы, дзе трэба было даваць ясны і спрэцызаваны адказ, а. Андрэй чэрпаў інфармацыі ў супрацоўнікаў спэцыялістаў, якіх не бракавала пры нашых школах. Да таго пры неабходных патрэбах і паводля даўнейшае прывычкі, а. Андрэй хапаўся за падручнікі, кніжкі, нататкі і нярaз начамі даганяў тое, што ў яго залягала адложанае, або было забытае.

Этапы працы а. Андрэя прыпадалі на часы выняткова цяжкія: ягоныя студыі ў Петраградзе — гэта час вайны і пачатак рэвалюцыі; першая душпастырская праца ў Маладэчне (1917—1918) — час рэвалюцыяў; прафэсарская праца ў першай беларускай каталіцкай сэмінарыі ў Менску (1918—1920) — бурныя бальшавіцкія перамены і часовы арышт; некалькі спакойных гадоў навіцыяту і місіі ў Амэрыцы (1921—23); арганізацыйная праца ў Друі — манастыра, школы, законных беларускіх сясьцёр, рамонт касьцёла, разбудова манастыра, арганізацыя законнае эканоміі — і ўсё гэта пры варожым націску з боку польскага ўраду і перашкодаў з боку духоўнае ўлады; далей рухавая дзейнасьць у Друі замяняецца яшчэ больш рухаваю і больш адказнаю дзейнасьцю гэнэрала Айцоў Марыянаў у Рыме (1933—1939) — тады-ж ён мусіў перажываць ліквідацыю беларускага законнага дому ў Друі і ў Вільні; а далей настаў той пэрыяд дзейнасьці ў Манджурыі, аб якім успаміналася перш.

## НЕБЯСЬПЕЧНЫ ВЫПАДАК

Прыпамінаецца мне адно здарэньне з жыцьця а. Андрэя ў Друі: яно асабліва характэрызуе ягоную працавітасьць і вытрымаласьць. Як помню, гэта было вясною 1926 г. Цікота працаваў у сябе позна ўначы, заняты нейкімі паперамі: ён-жа быў тады дырэктарам гімназіі і прытым настаўнікам лацінскай мовы — быў проста завалены працаю! Бывала, спаў ня больш 4 гадзін, а менш здаралася ня рэдка. Толькі ягоны магутны арганізм мог вытрымаць такую забойчую працу ў Друі праз цэлых 10 гадоў.

Вось тады ўначы, калі пайшоў позна спаць і заснуў адразу, ня зьмеркаваў, што печ была напалена дубовымі дрывамі і зарана зачынена. Рана мы ўставалі а 4-ай гадзіне. Цікота ня устаў і на пацеры ня прыйшоў, а ўсе ціханька гаманілі між сабою: «Ня будзіць яго! няхай хоць разок перасьпіць . . .» Аж толькі пасьля Сьв. Літургіі заглянулі да яго і пачулі, што моцна храпеў, але неяк ненатуральна. Падыйшлі да ложка і з вялікім страхам убачылі, што ён бяз памяці. Зразумелі, што ўчадзеў. Вынесьлі ў калідор і скарэй па дахтароў! Прыйшлі адразу абодвы — і стары і малады. Пачалі ратаваць і, на нашае гора, тутжа пасварыліся. Бачу я, што гэты скандал пагражае жыцьцю чалавека. Кажу маладому: «Рабі Васпан, што трэба і ня зьвертай на старога ўвагі: давай нам загады і не агрызайся з капрысным дзедам. Цяпер я тут гаспадар і годзі!»

Малады доктар загадаў рабіць штучнае дыханьне, даваў лякарствы, а стары бурчэў і запісываў сваё. Я паказаў маладому ягоны рэцэпт, а гэты кажа: «Можна купіць: мой старшы калега ніколі ня прыпісвае шкодных лякарстваў».

Я выступаў у той небясьпецы вельмі рашуча, але, прызнаюся, сам дужа баяўся, бо стары доктар быў у Друі заслужаны, сядзеў тут вельмі доўга і ўважалі яго за практычнага лекара; а я яго адразу збракаваў, хоць сам я быў у Друі чалавекам новым і не знаў людзей і гэтых абодвых эскулапаў . . .

Так мы прамучыліся з хворым дырэктарам гадзіны дзьве, пакуль прывялі яго да прытомнасьці. Сэрца ў нас адлягло. Я меркаваў яго перанесьці ў лепшае месца, каб даць поўны адпачынак, але . . . наш хворы быў ужо пры памяці і зара стаў камандаваць сам. Найперш зьдзівіўся, чаго мы так ля яго кружым? Калі мы аднак не адступалі, сказаў: «Дайце вы мне спакой! Займайцеся сваім дзелам, а я сам ведаю, што мне рабіць». Так мы, сканфужаныя, разыйшліся; а ён, прывёўшы сябе па трошку да парадку, ўзяўся — бяз сумніву і адпачынку — за нармальную працу і, хоць з болем галавы, вёў свой гаротны дзень да познага вечара.

Вось які быў Цікота.

(Працяг будзе)

**а. Я. Гэрмановіч**

# Прэпадобны Лаўрэн Тураўскі

Асоба прэпадобнага Лаўрэна япіскапа тураўскага вельмі мала ведамая ў нашай рэлігійнай гісторыі, хоць з тых некалькі вестак аб ім, якія быццам між іншым уплецены ў розных старых дакумантах, можна выразна бачыць, што ён быў чалавекам вялікае духовае дасканаласьці і мусіў мець паважны ўплыў на сваё акружэньне.

Апісаньне ягонага жыцьця не захавалася і, праўдападобна, такога апісаньня зусім ня было, але затое ўспаміны аб ім падходзяць з вельмі даўных часоў. Палікарп Чарнарызец, які жыў уканцы XII і на пачатку XIII ст. у сваім «Другім пасланьні к архімандрыту пячэрскаму Акіндзіну аб сьвятых блажэнных чарнарызцах, братох нашых» (Викторовъ. Кіево-Печерскій Патерикъ. Выданы Яковлевым у «Памятники рус. литературы XII—XIII вв. стар. CXXIX—CXXX), падае пераказ аб «затворніку Лаўрэнцію». А другі ўспамін аб Лаўрэну падае сучасьнік Палікарпа Сімеон у пасланьні к Палікарпу, які хацеў стацца ігумэнам Дзмітравага Манастыра — ён пералічаў усіх япіскапаў, якія выйшлі з таго манастыра і між імі называе так-жа Лаўрэна.

З даманастырскага жыцьця Лаўрэна ведама толькі тое, што ён паходзіў з Турава. Радзіўся праўдападобна ў 30-ых, або 40-ых гадох XII стаг. Аб ягоных бацькох, асьвеце, юнацтве — ніякіх вестак няма. Першы гістарычны ўспамін аб ягонай асобе зьвязаны з ягоным перабываньнем у Кіева-Пячэрскім манастыры. Гэта быў час, калі Тураўскае княства залежала ад Кіева і некалькі Тураўскіх князёў сталася потым вялікімі князямі Кіеўскімі; там-жа быў аседак мітрапаліта, дзеля гэтага манахі з Турава ня былі рэдкім зьявішчам у Кіяве.

Калі Лаўрэн зьявіўся ў Пячэрскім манастыры, няма ведама, але будучы там, ён займеў жаданьне стацца «затворнікам». Пячэрскія старцы не далі яму дазволу на гэта, бо незадоўга перед тым сталіся нейкія «небясьпечныя спакусы з затворнікамі Ісаакам і Мікітам». Але, відаць, Лаўрын лічыў тых затворнікаў за слабадухаў і таму пастанавіў паказаць, што затворніцтва ёсьць яму пад сілу, дзеля гэтага ён пакінуў Пячэрскі манастыр і перайшоў у Дзьмітраўскі манастыр, што быў недалёка ад Пячэрскага манастыра; тамтэйшы ігумэн дазволіў яму стацца затворнікам.

Дзімітраў манастыр, у які перайшоў Лаўрэн, быў заснаваны Кіеўскім князем Ізяславам Яраславічам (1054—1073) і аставаўся князёўскім. Але ў 1128 г. з няведамых прычынаў яго забралі манахі Пячэрскага манастыра і галоўную сьвята-Дзімітраўскую царкву перасьвяцілі ў імя сьв. Пятра. І этае пераняцьце, як сьведчыць Лаўрэнційскі летапіс, адбылося «з грахом вялікім» і выклікала агульнае абурэньне супраць пячэрскіх манахаў, дзеля гэтага па некаторым часе той манастыр вярнуўся да патомкаў Ізяслава, і менавіта да Тураўскае галіны Ізяславічаў, ды прыняў свой стары назоў Дзімітраўскага манастыра. У ім акрамя галоўнае сьв.-Дзімітраўскае царквы было яшчэ дзьве царквы і адну з іх пабудаваў Святаполк Ізяславіч, які перш чым абняў Кіеўскі вялікакняжы пасад, быў Тураўскім князем у гадох 1087—1093. Ад таго часу Дзімітраў манастыр быў моцна зьвязаны з Тураўскім князем; там была іхняя ўсыпальніца. Дык ня дзіва, што туды перайшоў туравец Лаўрэн.

Будучы ў затворы, Лаўрэн вёў строгае пабожнае жыцьцё і праз некаторы час атрымаў ад Бога ласку аздараўляць хворых. У «Патэрыку» ўспамінаецца толькі аб адным аздараўленьні апанаванага д'яблам і то, відаць, успамінаецца толькі дзеля таго, што хворы перад аздараўленьнем мусіў аж некалькі дзён пражыць разам з сьвятым, а потым на ягоны загад мусіў ісьці ў Пячэрскі манастыр.

Затворніцкае жыцьцё прэпадобнага Лаўрэна ня прынясло яму таго супакою, да якога ён імкнуўся — людзі знайходзілі дарогу да ягонага «затвору»; адны шукаючы духовае стравы, іншыя — аздараўленьня. Ягонае імя было шырокаведамым у Кіяве.

Калі ў 1182 г. сьв. Кірыла Тураўскі зрокся якіскапскага пасаду, дык на яго мейсца і Кіеўскі мітрапаліт (Нікіфар 1182—1197) і Тураўскі князь Глеб Юравіч (1170—1195), відаць аднагодна, бо хутка, у тым-жа 1182 г. прызначаюць на Тураўскі япіскапскі пасад затворніка Лаўрэна. У тым-жа 1182 г. ён ужо ў сане япіскапа быў на пасьвячаньні іераманаха Васіля ў ігумэны Кіева-Пячэрскага манастыра.

Нажаль аб дзейнасьці Лаўрэна ў Тураве ніякіх вестак няма. Можна толькі дагадвацца, што гэта ён прызнаў культ сьвятога для свайго папярэдніка — Кірылы X і магчыма што гэта ён падаў ягоны жыцьцяпіс.

Памёр Лаўрэн праўдападобна ў 1194 г. і быў пахаваны каля Барысаглебскага япіскапскага манастыра.

Можна дагадвацца, што дзейнасьць сьв. Лаўрэна ў Тураве была моцна абцяжана, бо гэта быў час, калі гэты горад раптоўна занепадаў і

таму пасьля Лаўрэна япіскапскі пасад быў неабсаджаны аж да 1345 г., а потым наагул гэты стары япіскапскі пасад быў перанесены ў Пінск, як аседак Тураўска-Пінскае епархіі. Дзеля гэтых прычынаў, ня гледзячы на высокую сьвятасьць жыцьця Лаўрэна, аб ім захавалася мала вестак. Ягоны культ як сьвятога праўдападобна зьявіўся хутка пасьля ягонае сьмерці, калі на Барысаглебскім магільніку былі знойдзены ягоны нятленныя сьвятыя астанкі. Аднак таму, што ў тым часе ня было ў Тураве япіскапа, дык сьвятыя астанкі перавезена ў Кіеўскі Пячэрскі манастыр і паложана ў пячоры прэп. Антонія, ды ўстаноўлена сьвяткаваць ягоную памяць 29 сьнежня — магчыма, што гэта быў дзень ягонае сьмерці.

Найстарэйшая ікона сьв. Лаўрэна Тураўскага паводля так званага «Ікона-піснага подлінніка» малюе яго так: «ростам прысадзістыі, барада так як у Багаслова — раздвоеная, клобук на плячах, вопратка прэпадобнага, босы».

У сучасны мамэнт Лаўрэн Тураўскі рахуецца сьвятым толькі у Праваслаўнай Царкве, але і там яму прызнаецца толькі мяйсцовы культ 29 студзеня, але ён заслугоўвае на тое, каб ягоны культ быў значна пашыраны.

**а. Л. Гарошка**



## СЬВЯТОЧНЫЯ ДНІ

### (БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ЛЯГЭНДА)

Каля маёнтку Лазовічы, які знайходзіцца недалёка ад Нясьвіжа, ёсьць тры даволі вялікія камяні. Адзін з іх выступае з зямлі на падабенства чалавечае постаці, а побач яго ляжаць два падоўжныя камяні. Старая беларуская лягэнда аб іх кажа наступнае:

Калісьці ў Нясьвіжы быў вельмі люты князь, які не баяўся Бога і страшэнна мучыў людзей. Мала таго, што людзі ў прыналежных яму вёсках жылі бедна, цяжка працавалі, але князь яшчэ зажадаў, каб яны працавалі ў сьвяты. Аднойчы на Вялікдзень войт выгнаў людзей у поле, пагражаючы, што злупяць скуру з плячэй таму, хто ня пойдзе на працу. Так загадаў князь. Людзі плачучы вышлі ў поле, але за працу ніхто ня браўся. Войт бізуном хвастаў мужчын і жанчын, але дарма. Прыехаў князь. Тут войт яшчэ больш люта накінуўся на людзей, каб дагадзіць князю, але і гэта не зламала волі народу. Тады людзі кажуць войту: «Калі ты такі разумны, дык папрабуй сам араць». Войт схапіў саху і пагнаў валоў. Але ня ўсьпеў ён даехаць і да палавіны баразны, як загрымеў гром і войт з валамі акамянеў. Так ён будзе стаяць акамянеўшы аж да страшнага суду.

## ЦАНА МАЛІТВЫ

Малітва ёсьць аховаю ўмеранасьці, акелзаньнем гневу, вызваленьнем ад жадобы помсты, выкараненьнем заздрасьці, зьнішчэньнем несправядлівасьці, ратункам ад бязбожнасьці. Малітва ёсьць умацаваньнем цела, зарукаю трываласьці сям'і, законнасьцю ў дзяржаве, ахаронаю валадарства, перамогаю ў вайне, зарукаю міру, паеднаньнем варожасьці, умацаваньнем прыязьні.

Малітва ёсьць пячацьцю дзявоцтва, вернасьцю ў сужэнстве, аружжам вадроўных, сторажам сьпячых, даверам вартуючых, зарукаю жніва для сяланаў, ратункам падарожнікаў па моры. Малітва ёсьць адвакатам для абвінавачаных, вызваленьнем палонных, акрыяньнем для зьняможаных, весялосьцю для жыцьцярадасных, уздымам для прыгнобленых, пацехою для сумуючых, вянком для сужонкаў, услаўленьнем радзіннага сьвету, сьмяротнаю вопраткаю для пакойнікаў.

Малітва ёсьць лучнасьцю з Богам, аглядань нем нябесных рэчаў, споўненьнем сьвятое надзеі, упадабненьнем да анёлаў, поступам у добрым, расьсеяньнем злога, наверненьнем грэшнікаў, належным ужываньнем сучаснасьці, пэўнасьцю адносна шчасьлівае будучыні.

**Сьв. Рыгор з Ніссы**

# Айцец Язэп Гэрмановіч — жыцьцё і творчасьць

*(З нагоды 50-х угодкаў сьвятарства)*

## I

29 чэрвеня 1963 г. а. Язэп Гэрмановіч сьвяткаваў *залаты юбілей* свайго сьвятарства. Для Юбілята — гэта была хвіліна радасьці і шчырай падзякі Богу, які паклікаўшы яго да сваей службы, прабаваў вернага свайго слугу ў розных абставінах жыцьця, вёў яго да ўсьцяж большай дасканаласьці. Для нас, прыяцеляў Юбілята, і для ўсяго беларускага грамадзянства, гэта нагода, каб уважней пазнаёміцца з жыцьцём і творчасьцю яго, каб «сьледам за дзедам» у шмат чым маглі павучыцца ад яго грамадзкай працы, а так-жа каб лепш пераносіць вялікія асабістыя цярпеньні.

Айцец Язэп Гэрмановіч (Вінцук Адважны) радзіўся 4 сакавіка 1890 г. з бацькоў Станіслава і Ганны з дому Савіцкая ў старадаўным беларускім гарадку Гальшаны. Бацька яго быў сёмым і наймалодшым у сям'і, а матка найстаршай у сваей сям'і з грамады 14 дзяцей. Бацька скончыў рамесьніцкую школу і працаваў да часу свайго жаніцьства ў Пецярбурзе ў экіпажнай майстэрні, дзе быў ужо старшым майстрам. Выкліканы сваімі сваякамі ў Гальшаны, тут ажаніўся з Ганнай Савіцкай. Жыцьцё спачатку складалася памысна, але нядоўга: бацька захварэў на сухоты, трэба было лячыць, грошы разыйшліся і памёр, пакінуўшы трое дробных дзетак — Людвіня 4 г., Язэп 2 г. і Станіслаў 2 мес. (гэты апошні скора памёр). Палажэньне зләжылася крытычнае, бо і матка мела слабое здароўе, а маемасьці не асталося ніякай. Дзеля таго, што бацька быў прыездным у Гальшанах, ягоная радня была ўдаве незнаёмая; а ў Савіцкіх была поўная хата сваіх дробных дзяцей, зрэшта бацька Ганны Гэрмановічыхі Францісь Савіцкі таксама хутка памёр, а там асталася матчыха Ганны... Значыць, і ў матчынай радні сіроты Гэрмановіча не маглі мець помачы... І вось удава Ганна Гэрмановіч узяла на сябе цяжар узгадаваньня дзяцей і яна патрапіла мазольнай працай зарабляць у чужых гаспадароў і рабіць рукавіцы — асабліва зімой — каб з продажы неяк пражыць. (Усё мястэчка Гальшаны займалася гэтым рэмяслом, рукавіцамі). Ганна так-жа вучыла сваіх дзяцей чытаць. Сваё дзяцінства апісаў пазьней В. Адважны ў вершы «Сірата», дзе чытаем:

«Браты, хто з вас быў сіратою?
Хто быў так прыгнечан, забыты,
Як я, у куточак забіты?
Хто жыў з бядой-маткай ліхою?»

Будучы сьвятар і паэт у школу пачаў хадзіць у тых-жа Гальшанах. Як лёгка прыходзілася хлапчуку здабываць першую веду, можна судзіць хоць-бы і з таго, што жылі яны ў цёткі, якая вымагала, каб ад раньняй вясны да познай восені Язэпка адпасьвіў статак — гэта лічылася за памешканьне і часткова за ўтрыманьне. Зімою хлапец хадзіў у школу; але, прыйшоўшы дамоў, трэба было памагаць рабіць рукавіцы, бо ў Гальшанах і дзеці ўжо памагалі зарабляць кусок хлеба. Школа, як ведама, была расейская. Ня гледзячы на ўсялякія цяжкасьці, Язэп скончыў пачатковую альшанскую школу з добрым вынікам. Было яму тады 12 гадоў.

А што далей?

Сямейная «рада» абсудзіла аддаць хлапца ў шаўцы! Сам аднак Язэп, кліканы да далейшай і вышэйшай навукі, ніяк ня мог на гэта згадзіцца. Ён праз вялікія сьлёзы перамагае перашкоды і трапляе ў гарадзкую школу у горад Ашмяну. Тут першы раз у сваім жыцьці спатыкаецца з беларускім друкаваным словам — «Дудкай» Багушэвіча, якую дае яму і ягонай сястрэ Людвіні беларускі каталіцкі сьвятар Гуневіч. Гэтая кніжачка адчыніла ім вочы, што яны Беларусы і з гэтай пазыцыі яны ня зыйшлі праз усё жыцьцё.

Пасьля 4-ох гадоў скончыў Язэп Гэрмановіч гарадзкую школу і пешкі выбраўся ў Вільню (80 км) — здабываць далейшую асьвету і зьдзейсьніць лятуценьні — стацца сьвятаром!

Перш чым быў прыняты фармальна ў віленскую катал. дух. сэмінарыю, Язэп Гэрмановіч праз тры гады разам з Кастусём Стэповічам, пазьнейшым сьвят. і паэтам Казімірам Сваяком, кватэруецца і вучыцца ў Вільні ў сёстраў Шаблоўскіх. Хваробы і матар'яльныя нястачы ня зьбіваюць юнакоў з выбранага шляху: абодвы — Гэрмановіч і Стэповіч — вучацца, здаюць экзаміны і ўрэшце ёсьць прынятыя ў віленскую сэмінарыю. Сэмінарыя гэта, хаця і знаходзілася ў той час пад загадамі Архібіскупа Эдварда Роппа, ведамага са сваей прыхільнасьці да беларускай

мовы у сьвятынях, аднак дзеля яго адсутнасьці ў Вільні і дзеля перавагі польскіх прафэсароў, дух сэмінарыі быў нацыянальна нездарова польскі. Ня гледзячы на гэта, выйшла з яе паважная колькасьць ведамых беларускіх сьвятароў. Сябрамі Гэрмановіча ў сэмінарыі былі: успомнены ўжо Стэповіч, Андрэй Цікота, Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Вінцэсь Гадлеўскі, Аўгустыновіч, Пятроўскі, Міхась Борык, Цыпр Лазоўскі. Усе яны, стаўшыся сьвятарамі, папрацавалі шмат для беларускага духовага адраджэньня.

У 1913 г. — акурат 50 гадоў таму назад — Язэп Гэрмановіч скончыў віленскую сэмінарыю і праз рукі літоўскага біскупа Каросаса атрымаў сьвятарскія сьвячэньні. Першую службу Божую адправіў у Вільні ў касьцеле Сьв. Духа ў асысьце сваіх выдатных сяброў К. Стэповіча і Ад. Станкевіча. Так першы цяжкі этап быў шчасьліва закончаны, але крыжовая дарога на сьвятарскім шляху была яшчэ на перадзе...

Малады сьвятар распачаў душпастырскую працу ў Далістове (павет Беластоцкі) ў характары вікарага ксяндза Гуневіча. Пасьля году перанесьлі яго духоўныя ўлады ў Беласток, пасьля ізноў у Далістова, адкуль па далейшых зьменах, трапляе ў Крыпна, Мсьцібова, а ў 1919 годзе ў Вялікую Лапеніцу.

Сьвятарская праца сама па сабе ня ёсьць лёгкай, а што-ж, калі выпадзе яна ў час вайны, голаду, заразьлівых хваробаў і рэвалюцыяў. Тады сьвятару патрэба большай разважнасьці, маральнай і фізычнай сілы, каб сам не загінуў марна і каб другім дапамог. Аднак ідэёвыя сьвятары пры помачы Божай перамагаюць усе цяжкасьці і ў жыцьці іхнім спраўджаецца тое, што ўсе дарогі вядуць да Бога. Гэтак яно сталася ў жыцьці і дзейнасьці а. Я. Гэрмановіча.

У Вялікай Лапеніцы, апрача звычайнае душпастырскае працы, ён закладае беларускую школку. У гэтым памагае яму спадарыня Краўчанка, якую аднак хутка палякі арыштавалі, а сам Гэрмановіч змушаны так-жа пакінуць Вял. Лапеніцу. У 1920 г. пераехаў у Слонімскі павет у Луконіцу. Летам у тым самым годзе прыходзяць туды бальшавікі. Яз. Гэрмановіч цяжка хварэе на дызынтэрыю. Бальшавікі ўсёроўна яго арыштавалі. Аднак, дзякуючы асаблівай Божай апецы і стараньням парафіянаў, вышаў цэлым з бальшавіцкіх рук. У Луконіцы прабыў наш Юбілят тры гады. Аб адносінах сваіх парафіянаў да беларускага сьвятара, да беларускай мовы знаходзім шмат матар'ялу ў сатыры В. Адважнага: «Спрэчка пад касьцёлам», дзе вуснамі селяніна Сымона аўтар адзываецца:

«А кругом нас ўзяліcь за рукі,
І сталі нам даваць навукі,
І б'юць па носе, колькі ўлезе,
Як той каваль ды па жалезе.
Ўсе праціў нас... А дзе прычына?..
Ты, Беларусь — мая Айчына!»

Усюды, дзе толькі працаваў а. Гэрмановіч, ён стараўся навучаць людзей праўдаў Божых у той мове, ў якой яны гаварылі. Гэтая справа сама сабой зусім натуральная і ў гэтым ніякай заслугі, здаецца, няма; аднак у тую пару выступаць з беларускім словам у касьцеле — трэба было вялікай рызыкі — проста гэройства! Польскім урадоўцам і рознага тыпу палякам ці спольшчаным беларусам гэта калола вока і выклікала на а. Гэрмановіча нагонку. Чым больш пасьпех мела родная мова ў людзей, тым больш польская адміністрацыя яе баялася і прасьледавала.

У Шаркаўшчыне на пахароне ведамага беларускага катал. сьвятара Зэнона Якуця меў казаньне а. Гэрмановіч для вялікай масы народу, у прысутнасьці 11 каталіцкіх сьвятароў і 2 праваслаўных. Усе прысутныя, а асабліва правасл. сьвятары, былі зварушаныя да сьлёз шчырасьцю прамоўцы, яснасьцю яго рэлігійнай думкі і глыбокім пачуцьцём народным.

З Луконіцы а. Гэрмановіч быў перанесены ў Лужкі, дзе прабыў толькі год, бо ўжо ў 1924 уступіў у закон Айцоў Марыянаў, якія у тым часе пачыналі сваю беларускую галіну ў Друі над Дзьвіной. З гэтым закончыўся ў жыцьці а. Язэпа пэрыяд працы сьвецкага сьвятара, які трываў 11 гадоў.

## II

У Друі невялікая грамада Айцоў Марыянаў, сярод якіх выдзеляюцца айцы Андрэй Цікота і Фабіян Абрантовіч, кіравалі вялікай парафіяй, коэдукацыйнай гімназіяй, дапамагалі ў суседніх парафіях. Апрача таго, каб мець з чаго жыць і дапамагчы бяднейшай моладзі ў здабываньні асьветы, працавалася цяжка на зямлі.

Айцец Гэрмановіч, скончыўшы навіцыят, перш быў назначаны пробашчам у Друі, пасьля магістрам навіцыяту, а так-жа настаўнікам закону Божага і лацінскай мовы ў гімназіі. Ён умеў узгадовываць хлапчукоў, зацікавіць іх, а асабліва ўмеў прышчэпліваць любоў да роднай беларускай мовы, якую ў Польшчы тады прасьледавалі і якой не маглі нават навучаць у самой друйскай гімназіі, дзе каля 90% вучняў былі беларусамі, а кіраўнікамі яе былі так-жа айцы Марыяне беларусы.

На жаль ня доўга працавалі разам Марыяне беларусы. У 1928 г. выехаў у Харбін Ф. Абрантовіч, а ў 1932 яму на падмогу выехаў так-жа а. Язэп Гэрмановіч. Пасьля шматлікіх гадоў не магу забыць таго сумна-прыгожага разьвітаньня з дарагім а. Язэпам у Друі. Усе былі ўсхваляваныя, пачынаючы ад а. Цікоты, Супэрыёра Друйскага Дому, а канчаючы на наймалодшым хлапчуку з інтэрнату. Сьпявалі мы тады песьні: «О, край родны, край прыгожы», «Хмары, хмары, што па небе носіцесь гарамі . . .», і іншыя. Шчымела сэрца ня толькі таму, што пакідае нас дарагі наш чалавек, які не для аднаго з нас стаўся новым бацькам, але й таму, што наша краіна траціла яшчэ аднаго сьвятара і дзеяча, якога нельга было заступіць.

У Харбіне, хаця вонкавыя абставіны былі вельмі розныя ад тых у Друі, айцу Гэрмановічу прышлося рабіць тое самае па сутнасьці, што і ў Друі: узгадовываць моладзь. У суравейшым клімаце, у ўмовах не лягчэйшых чымся ў Друі, а Язэп выконваў абавязкі дырэктара гімназіі, спавядніка жаночых манастыроў, выхаваўцы інтэрнату, настаўніка. Усё гэта моцна падкасіла яго сілы і ў 1936 г. ён павінен быў вярнуцца на бацькаўшчыну, гэтым разам у Вільню. Тут назначаны быў кіраўнікам (пасьля а. Юрага Кашыры) беларускага марыянскага Дому Студэнтаў пры вуліцы Жыгімонта. Дом гэты быў параосткам Друйскага Дому і меў за мэту прыгатаваньне будучых сьвятароў. Была моладзь, кіпела праца. Ня раз пабывалі ў тым доме беларускія сьвятары, дзеячы, мастакі і паэты. Помню адведалі нас ксяндзы Ад. Станкевіч, Ул. Таллочка, Навіцкі, Семашкевіч (паэт Быліна) і іншыя. Гасьцілі ў нас так-жа Антон Луцкевіч, Трэпка, Шутовіч, Дубейкаўскі, Максім Танк, Забэйда-Суміцкі.

Віленскі беларускі дом Айцоў Марыянаў быў сапраўднай клетачкай беларускага духовага адраджэньня. Аднак праіснаваў ён толькі 3 гады. Польскія адміністрацыйныя ўлады, зьнішчыўшы беларускі кляштар у Друі, не далі змогі для існаваньня так-жа віленскага дому. Айцец Язэп Гэрмановіч і ўсе студэнты сэмінарысты ў 1938 г. былі выселеныя ў цэнтральную Польшчу. Адтуль а. Гэрмановіч ізноў праз Рым выехаў на працу ў Харбін і ізноў спаткаўся там з айцамі Абрантовічам і пасьля з Андрэям Цікота. Працуе а. Язэп аж да 1948 г., калі кітайскія камуністы разам з іншымі айцамі і настаўнікамі гімназіі яго арыштавалі і перадалі савецкаму НКВД. Падобна як і іншыя яго сябры, а. Гэрмановіч быў завочна засуджаны на 25 гадоў прымусовых лягерных работ.

Бог аднак у сваім міласэрдзі скараціў той несправядлівы сталінскі прысуд да шасьці з паловай гадоў і а. Язэп, хаця і зьнішчаны фізычна, бадзёры аднак і моцны на духу, ў 1955 годзе высланы савецкімі ўладамі ў Польшчу. Адтуль у канцы 1959 г. ўдаецца яму вырвацца ў вольны сьвет. Тут ён напісаў свае «Ўспаміны» і паэтычны твор «Князь і Лапаць».

III

Вельмі бурлівае і цяжкое жыцьцё нашага Юбілята ня спрыяла яго творчасьці. Аднак ня гледзячы на ўсё, з пад яго пяра выйшла шмат твораў у форме аповесьцяў і паэзіі.

Айцец Гэрмановіч пачаў пісаць будучы яшчэ пробашчам у Вялікай Лапеніцы. Першы яго артыкул быў надрукаваны ў віленскай «Крыніцы» ў 1919 г. пад назовам «Хто мы»? Быў ён падпісаны псэўдонімам «Хлопчык з пад Горадні». Пасьля таго, як стаў пісаць, здарылася яму спаткацца з Максімам Гарэцкім.

— Ксёндз, ты мусіш пісаць! Грэх, калі ня будзеш! — сказаў ведамы пісьменьнік-крытык.

Словы Гарэцкага былі добрай заахвотай. Гэрмановіч — ён жа Вінцук Адважны — пісаў, дзе толькі быў і дзе толькі мог. Да пісаньня падганяла яго ня толькі хваля беларускага агульнага адраджэньня, але так жа патрэба ўнутраная паэты. Ён пісаў аб сабе:

«Іграю, іграці я мушу.
Тут ноты жыцьцём напісаны,
Дык будуць усе прачытаны,
Як струны жывыя парушу . . .»

Творчасьць Вінцука Адважнага адзначаецца моцным патрыятызмам, глыбока рэлігійным настроем. Так-жа ў ёй шмат далікатнага беларускага гумару. Дагэтуль паявіліся ў друку асобнымі кніжкамі наступныя творы:

| | |
|---|---|
| 1. Як Казюк сабраўся да споведзі, | Вільня 1928 |
| 2. Казюковае жанімства, | Вільня 1929 |
| 3. ЯкГануля зьбіралася ў Аргентыну, | Вільня 1930 |
| 4. Адам і Анелька, | Вільня 1931 |
| 5. Канёк-Гарбунёк, | Вільня 1932 |
| 6. Унія на Палесьсі, | Вільня 1932 |
| 7. Бэтлейка, | Вільня 1932 |
| 8. Беларускія Цымбалы, | Вільня 1933 |
| 9. Хлапец, | Вільня 1936 |
| 10. Кітай-Сібір-Масква (Успаміны), | Мюнхэн 1962 |
| 11. Князь і Лапаць, | у друку. |

Аб творах пад нумарамі 1—8 знаходзім іх агляд у ўступе да кніжкі «Беларускія Цымбалы» пяра Кс. Адама Станкевіча. Ён-жа там гэтак адзываецца:

«Агулам Вінцук Адважны ў сваім паэтыцкім творстве стаіць на грунце несьмяротных ідэалаў Хрыстовай рэлігіі і этыкі, як бы паказваючы гэтым найвышэйшую мэту мастацтва і поэтыцкай тэхнікі: з гэтых ідэалаў чэрпае поэтыцкае натхненьне, да іх кліча свой народ і ў іх бача непарушную веру ў пэўнае зьдзейсьненьне беларускіх народных ідэалаў, бо справа народная ў В. Адважнага гэта частка справы Божай».

Трэба заўважыць, што шмат твораў айца Гэрмановіча загінула, асабліва шкада арыгінальных ягоных баек, а так-жа тлумачэньняў Крылова, Красіцкага і іншых ведамых аўтараў. Усё, што было напісана ў Харбіне, там і асталося.

«Успаміны» былі даручаны вялікаму і Добраму Яну XXIII, каторы, калі прымаў нашага сьвятара, казаў яму: «Не ўпадзі ізноў у рукі тваіх ворагаў!..»

Спадзяёмся, што наш Юбілят, атрымаўшы багаслаўленьне ад таго-ж Папы і шмат добрых пажаданьняў з усіх куткоў сьвету, пажыве нам яшчэ і не адно напіша на славу Божую і Беларусі.

Вучань Вінцука Адважнага

Лёндан. 1. VII. 1963.

## *Песьня на чэсьць Люрдзкае Божае Маці*

*Над сьпелым калосьсем*
*Сьпяваюць званы,*
*Аб дзіве дзіўнейшым*
*Скрозь весьцяць яны.*

*Авэ, авэ, авэ Марыя,*
*Вітай, вітай, вітай Марыя!*

*Ледзь сонца ўзьнялося*
*Над сеткай палёў*
*Пайшла Бэрнардэтка*
*У лес па гальлё.*

*Авэ...*

*Аж раптам гарачы,*
*Нястрымны віхор*
*Ад скал Масабельскіх*
*Нізрынуў на бор.*

*Авэ...*

*Схіліліся нізка*
*Да сьцерплай зямлі*
*І ніцыя зёлы*
*Й дубы-каралі,*

*Авэ...*

*Замерла дзяўчынка,*
*Прыльгнула да пня,*
*Ня сьмее павекі*
*На зьзяньне узьняць,*

*Авэ...*

*Нарэшце зірнула —*
*За зоры сьвятлей,*
*Праменная Дзева*
*Стаіць на скале.*

*Авэ...*

*Кашуля, як сьнег той,*
*Як неба пояс,*
*Абліччa — як вёсны*
*Ціхія у нас.*

*Авэ...*

*Зярняты ружанцу*
*Зіхцяць у руках,*
*І белыя ружы*
*Услалі Ёй шлях...*

*Авэ...*

*Сагнула каленьні*
*Ў пакоры дзіця,*
*Трымціць, як над плёсам*
*Сьцяблінка трысьця,*

*Авэ...*

*І вуснамі ссохлымі*
*Шэпча бы ў сьне:*
*«О, будзь міласьцівай*
*Да нас, да мяне!»*

*Авэ...*

*Ды згінула зьява...*
*Сацьмела скала...*
*Чакала малая,*
*Шукала й пайшла.*

*Авэ...*

*Назаўтра, ледзь ранак*
*Усплыў над зямлёй,*
*Ня сьпіць Бэрнардэтка,*
*Ірвецца ў гальлё,*

*Авэ . . .*

*Туды, дзе учора,*
*Між скалаў адна,*
*Чароўную постаць*
*Вітала яна.*

*Авэ . . .*

*«Дазволь мне, матуля,*
*Ісьці да Яе,*
*Мне радасьць дзіўная*
*Чакаць не дае!»*

*Авэ . . .*

*І лёгкаю птушкай*
*Паймкнула ў туман.*
*І зноўкі ёй Дзева*
*Зьявілася там.*

*Авэ . . .*

*«Што хочаш? Скажы мне!»*
*Так моліць дзіця.*
*«Твая-ж тут уся я,*
*Пакуль стане жыцьця».*

*Авэ . . .*

*«Прыходзь да мяне ты*
*Й сяброўкі бяры,*
*Два тыдні із вамі*
*Я буду ў бары».*

*Авэ . . .*

*Так сталася й дзеці*
*Паверылі Ёй.*
*Ды цяжка даць рады*
*Няверы людзкой . . .*

*Авэ . . .*

Натальля Арсеньнева

# Вартасьць ахвярнасьці і самаапанаваньня

Выдатны францускі маршал з першае сусьветнае вайны Людовік Ліотэй (1854—1934) падчас сваіх ваенных дзеяньняў у Афрыцы і Азіі аднойчы, праязджаючы каля Сіёну, адведаў тамтэйшы францішканскі навіцыят. Бедныя манахі прынялі яго, як толькі маглі, і нават наладзілі невялікі канцэрт рэлігійнае музыкі на яго чэсьць.

Падчас усіх цэрэмоніяў прыняцьця кідалася ў вочы аграмадная розніца між славутным акружэньнем маршала і пакораю ды сьціпласьцю законьнікаў. Гэта глыбока ўразіла маршала. Ён, выслухаўшы сьпевы навіцыянтаў і прынагодныя прамовы айцоў-кіраўнікоў, падзякаваў законьнікам за шчырыя выявы пашаны і потым зьвярнуўся да навіцыянтаў з такімі словамі:

«Вы глядзіцё на мяне і ў думцы кажаце сабе: ,,Вось гэта Ліотэй, маршал Францыі, чалавек, які ўсё сваё жыцьцё правёў на вялікіх дарогах, каторы бачыў ўвесь сьвет, каторы ўсюды выдаваў загады, як правадыр". І можа думаеце: ,,Чым-жа ёсьць нашае жыцьцё ў параўнаньні да ягонага жыцьця! Ці-ж можна вытрымаць заўсёды ў манастырскім закрыцьці і толькі шаптаць малітвы, калі сьвет такі шырокі, такі прыгожы і так шмат можна зрабіць!" Так, знаемо Індакітай, Марокко . . . усё гэта цудоўна і ашаламляюча. Аднак я, Ліотэй, кажу вам, маладыя законьнікі: вашае жыцьцё, вашае правіла і вашыя ахвяры — ёсьць так-жа патрэбныя, так-жа канечныя і плодныя, так-жа вялікія, як найбольшыя ўчынкі на зямлі. Бо неабходная раўнавага, неабходны парадак. Побач чыну ёсьць размышляньне, побач вонкавага высілку ёсьць унутранае жыцьцё. Побач змаганьня з стыхіямі і людзьмі ёсьць змаганьне з самым сабою. Жыцьцё было-б хаотычным шаленствам, калі-б ім ня кіраваў дух. Без такіх людзей, як вы, такі чалавек, як я, быў-бы нічым.

Восьжа, ці вы, маладыя законьнікі, здаяце сабе справу з тае ролі, якую выконваеце на зямлі? У хвілінах знуджэньня і зьнеахвочаньня — усе маюць такія хвіліны, ці думаеце я іх ня маю — можа пытаеце сябе, ці ня ўчынілі шаленства, замкнуўшыся ў гэтых мурах? Ці здаяце сабе справу, да якое ступені вы карысныя, да якое ступені неадклічныя і ў парадку сьвету займаеце асноўнае мейсца!?»

Навочны сьведка гэтае прамовы маршала піша: «Хаця-б я жыў і тысячу гадоў ніколі не забудуся слоў вайсковага правадыра і таго ўражэньня, якое яны зрабілі на ўсіх прысутных».

# 2-я Сэсія Ватыканскага Сабору — 1963

I

29 верасьня, ў дзень Сьв. Міхала Арханёла, ў базыліцы Сьв. Пятра ў Рыме адчынілася 2-я Сэсія II-га Ватыканскага Сабору. (I Ватык. Сабор адбыўся у 1870 г.).

Папа Павал VI так распачаў прамову да 2400 зьлішнім айцоў Сабору: «Вітайце, Браты! Так вітае Вас найменшы з паміж Вас, слуга слугаў Божых, міма таго, што ён трымае ключы ўлады, даверанья Пятру праз Хрыста». —

Далей Папа выразіў пашану памёршаму свайму папярэдніку Яну XXIII, Які склікаў гэты Сабор і назначыў яму мэту: а) Душпастырства, в) Царква-Экклезія і рэформы яе, с) Адзінасьць хрысьціянства і д) Дыялёг з сучасным сьветам.

Павал VI ўжо 21 верасьня на сабраньні Рымскай Курыі гаварыў аб патрэбе рэформы самое Курыі, каб даць ёй характар больш міжнародны і большую спраўнасьць. А цяпер у гэтай прамове на Саборы заклікаў да абнаўленьня вонкавага і ўнутранага жыцьця, да пакоры, убоства, пабожнасьці, духа ахвяры, адвагі праўды, любові справядлівасьці. Казаў, што Хрыстовая Царква ёсьць адна і ня можа быць начай, як адзін ёсьць Хрыстос. Але ня трэба ў Царкве звужваць розных моваў, абрадаў, традыцыяў, лякальных і народных звычаяў.

Павал VI пры гэтым прывітаў прысутных абсэрватараў (на I Сэсіі іх было 45, на II — 66) і сказаў: «Калі ў прычынах падзелу ляжыць на нас якая віна, дык пакорна просім Бога, каб нам дараваў і таксама просім нашых Братоў, якіх мы маглі абразіць, каб былі для нас паблажлівыя. З свайго боку мы гатовы прабачыць зьнявагі, якія дазнала Каталіцкая Царква і забыцца аб цярпеньнях, прычыненых нам у доўгай сэрыі сварак і падзелаў». Папа выражае пашану да традыцыяў, якія існуюць у другіх рэлігіях і цэрквах і ён разумее ўсе труднасьці, якія стаяць паміж намі і імі да злучэньня. —

У апошнім пункце Папа зьвяртаецца да «сучаснага сьвету», каб пралажыць «мост да яго» — да сьвету навукі, працы, моладзі, да творцаў культуры і да артыстаў. Кажа: «Няхай сьвет ведае, што Царква глядзіць на яго з глыбокім разуменьнем, са шчырым зьдзіўленьнем і гатова не падпарадкоўваць яго сабе, але служыць яму; не памяншаць яго, але ўзмацняць яго вартасьць; не асуджаць, але ўспамагаць, каб яго збавіць».

Паміж рознымі катэгорыямі людзей Папа асаблівую ўвагу зьвяртае на ўбогіх, галодных, нешчасьлівых, вязьняў — на ўсё чалавецтва, якое цярпіць і плача.

I яшчэ зьвяртаецца да людзей нехрысьціянскіх рэлігіяў, якія перахавалі паняцьце аб Богу і аддаюць Яму чэсьць. Папа гаворыць, што Катал. Царква цэніць у тых рэлігіях усё праўдзівае, што там існуе і што ў іх добрае і людзкое.

У канцы зьвяртаецца да новых народаў (гэта для Беларусаў вельмі важна!), якія здабываюць сьведамасьць і самастойнасьць.

З усей прамовы відаць, што Павал VI падняў усе акцэнты, якія выяўляліся ў Яна XXIII і што новы Папа — чалавек цалкам сучасны.

II

ЦЭРЭМОНІІ на пачатку гэтай Сэсіі былі скарочаны, але самае важнае адбылося: чытаючы тэкст, Папа голасна і публічна ўчыніў Вызнаньне Веры ўва ўсё тое, чаго вучыць Царква. Гэта зрабіла вельмі моцнае ўражаньне на ўсіх прысутных. Пасьля адбылося прызваньне Сьвятога Духа і Сьв. Літургія, якую адправіў дзекан кардынальскай калегіі Тіссэран. Сакратар Сабору арцыбіскуп Фэлічі вынес урачыста Эванэлію, якая кладзецца ў часе кожнай сэсіі на галоўным аўтары.

На гэтай сэсіі (навіна!) дапушчаны на салю сьвецкія каталікі — ў ліку 13 — пераважна кіраўнікі розных таварыстваў і каталіцкіх інстытутаў. Лік тэалёгаў-экспэртаў пабольшыўся з 200 да 450. Лік карэспадэнтаў дайшоў да 1500. Гэтыя цяпер маюць большую магчымасьць даставаць поўную інфармацыю аб працы Сабору. Папа назначыў 4 модэратараў-кардыналаў, якія кіруюць усей працай Сабору. На кожнай сэсіі верхаводзіць адзін з групы 10 кардыналаў: яны імянем Папы кіруюць працай дня. Сабор будзе зьбірацца кожны дзень, акрамя суботы і нядзелі.

III

Праца Сабору пайшла энэргічна, вытрывала і дарэчы памысна. Галоўная тэма ЦЭРКВА: Як яе назваць-акрэсьліць і схарактэрызаваць? Цікавая думка кардынала з Індыі, Граціяс: «Царква ня ёсьць магутнасьць, што пануе, але створана для таго, каб служыць». Кард. францускі Жэрліер дамагаўся, каб Царква была «Царквой убогіх», каб нават ня мела выгляду

багацтва. Мітрапаліт Гэрманюк, украінец з Канады, дае прапанову, каб стварыць «Апостальскую Калегію» ў Царкве — з кардыналаў, патрыярхаў і дэлегатаў ад біскупскіх краёвых радаў: такая Калегія памагала-б Папе ў кіравецтве Царквою.

Важная прапанова выйшла ў справе ДЫЯКАНАЎ: аднавіць апостальскую традыцыю аб дыяканах, значыць, каб увесьці сталых дыяканаў, а ня толькі як ступень да сьвятарства. І паднята справа жаніцьства такіх дыяканаў. Тут дыскусія ішла вельмі жывая. Асабліва дамагаюцца дыяканаў біскупы з Паўдзённай Амэрыкі і місыйныя. Такія дыяканы былі-б памоцнымі ў духоўнай працы, дзе не стае сьвятароў. Іншыя баяцца, што жанатыя дыяканы стануць матар'яльным цяжарам для Царквы; але другія кажуць, што жанатыя могуць працаваць на сваё ўтрыманьне незалежна.

IV

**АБСЭРВАТАРЫ.** Дня 17. X. Папа Павал VI прыняў усіх 66 абсэрватараў на спэцыяльнай аўдыенцыі. Ад імя ўсіх іх сказаў прамову праф. Скіндсгаард з Копэнгагі. Адказываючы яму, Папа гаварыў: «Мы не спадзяёмся цудоўнага і хуткага вырашэньня ўсіх пытаньняў; але гэты дыялёг напаўняе нас надзеяй. Зьбліжацца, спатыкацца, пазнаваць, гаварыць, што можа быць больш простага, больш натуральнага, больш людзкога?» На другі дзень прыняў усіх абсэрватараў Кардынал Бэа ў Сакратарыяце для Спраў Лучнасьці Хрысьціян. Там было вельмі цікавае выступленьне прадстаўніка Маскоўскага Патрыярха Протопрэсьвітэра Віталія Баравога, які асьмеліўся назваць сябе «Беларусам з паходжаньня». Гэта быў адважны крок у гісторыі Прав. Царквы ў Расеі, калі Прадстаўнік Патрыархату публічна назваў сябе Беларусам. Аднак нас ня менш дзівіць, чаму Баравы называе сябе «Прадстаўніком Расейскай Прав. Царквы»? Значыць, ён не прадстаўляе ні Беларускай, ні Ўкраінскай Царквы! Ці ж ужо Маскоўскі Патрыарх не расьцягівае сваей улады на Беларусь і Ўкраіну?... Аднак аб гэтым мы больш гаварыць ня будзем, бо гэта справа праваслаўных.

Затое нас яшчэ дзівіць, што Баравы ў тым выступленьні гаворыць аб «сваім расейскім характары» (?). Скуль ён у Баравога ўзяўся? — У Англіі, напрыклад, ніякі Шкот, ні Валіец не пахваліцца, што ў яго «ангельскі» характар, хоць жывуць у аднэй манархіі. Таксама Славак не скажа, што ў яго «чэскі» характар: гэта самі чэхі назвалі-б сьмешным лізунствам. — Ці такая ненатуральнасьць і нізкапаклонства перад «старшым братам» яшчэ доўга будзе пакутаваць у Беларусаў?

V

**РЭФОРМЫ**

Праекты аб ЛІТУРГІІ яшчэ ня перайшлі праз апошнюю стадыю пастановаў, аднак ужо ёсьць пэўнасьць, што будуць некаторыя прынятыя, як праект аб НАРОДНЫХ МОВАХ, або КОНЦЭЛЕБРАЦЫІ і Сьвятой Комуніі пад відамі хлеба і віна. З усяго відаць, што наступае значнае зьбліжэньне з усходнімі абрадамі.

Рэформа сьвятарскіх пацераў (Брэвіяра) менш цікавіць людзей сьвецкіх, але цікава ведаць, што ідзе націск, каб зьменшыць у пацерах колькасьць псальмаў і даць больш выняткаў са Старога і Новага Запавету.

Таксама хочуць увесьці новую рэформу КАЛЯНДАРА, галоўна, каб паставіць адзін тэрмін для Валікадня (Пасхі). Найбольшая труднасьць у тым, што Пасха мусіць пачынацца у нядзелю, а нядзелі не маюць сталых днёў у годзе. Каталікі могуць згадзіцца ў парадку датаў, тэрмінаў, ці каляндароў; прапануюць агульны дагавор і пойдуць на ўступкі, бо сонечныя тэрміны належаць да астраноміі, а не да рэлігіі і догматаў яе. Калісьці каталікі ў царскай Расеі сьвяткавалі Пасху аднолькава з праваслаўнымі па старому каляндару і Рымскі Папа гэтаму не пярэчыў; а падчас першай сусьветнай вайны перайшлі на новы каляндар. І цяпер Каталіцкая Царква пазваляе сьвяткаваць Пасху паводле каляндара дзяржавы, ў якой жывуць каталікі.

І яшчэ да рэформаў належыць справа адносінаў Царквы да людзей СЬВЕЦКІХ, т. называнага «ЛЯІКАТУ». Пытаньне ставіцца так, што нельга ўважаць сьвецкі элемэнт, як «маўклівых авечак», бо кожны ахрышчаны ёсьць жывым вучнем Хрыстовым і павінен быць дзейнай асобай. Дзеля таго дамагаюцца, каб павялічыць лік сьвецкіх людзей на Саборы і даваць ім голас. Некатарыя біскупы вельмі моцна выступаюць у абароне «авечак». Кажуць, што мінуў той час, калі народ мог толькі «верыць, маліцца, слухаць і плаціць». Увесь народ абавязаны жыць паводля веры, працаваць для ўмацненьня веры паміж каталікамі і пашырэньня паміж другімі. Царква належыць ня толькі да духавенства, але да кожнага ахрышчанага; а духавенства мае не панаваць у Царкве, але служыць людзям у духоўных патрэбах. І не надарэмна Папа Павал VI прыпомніў аб сабе, што ён ёсьць «Слуга слугаў Божых». Дык тым болей усе ніжэйшыя ад Яго — гэта «слугі».

Некаторыя дамагаюцца дапусьціць прадстаўнікоў ад усіх важнейшых Законаў — мужчынскіх і жаночых, а ў гэтым жанчыны мусяць мець роўнае права. Амэрыканскія біскупы дамагаюцца, каб маніфэставаць публічна роўныя ў Царкве правы ўсіх народаў, нацыяў, расаў, колераў, а такжа каб зганьбіць і асудзіць усякую расавую дыскрымінацыю.

### VI

Нарэшце Сабор прыняў на галасаваньні ўсе праекты аб біскупах і дыяканах: сан біскупа — гэта найвышэйшая ступень сьвятарства. Гэты сан устанавіў Хрыстос, калі паставіў АПОСТАЛАЎ, а насьледнікамі апосталаў ёсьць БІСКУПЫ, як насьледнікам Пятра ёсьць ПАПА. Дапускаюцца сталыя ДЫЯКАНЫ, як было за часоў апостальскіх. Уся КАЛЕГІЯ БІСКУПАЎ, разам з Папай мае поўную ўладу ў Царкве.

Пастаноўлена пацьвердзіць праекты аб Літургіі. Аб СЬПЕВЕ ў сьвятынях пастаноўлена заснаваньне вышэйшых курсаў сьпеву і музыкі царкоўнай. АЗДОБА ў сьвятынях мусіць быць густоўная, стылёвая, але памяркоўная, бяз пышнасьці і збытку.

Вельмі ўрачыста абходзілі на Саборы 400-годзьдзе Сабору Трыдэнтскага і ўстанаўленьне на ім духоўных СЭМІНАРЫЯЎ.

Карэспандэнты даведаліся, што магчыма III Сэсія Сабору адбудзецца ўвосень 1964 г., а заканчэньне Сабору ў 1965 годзе.

*

2-ая Сэсія II-га Ватыканскага Сабору закончылася 4-го сьнежня. Шмат хто з Айцоў Сабору чуліся змучаныя фарсоўнай працай і сьпяшаліся дамоў. Але праца Сэсіі прайшла памысна: Сьв. Айцец Павал VI прыхіліўся да ўсіх важнейшых пастановаў так называнай «паступовай» часткі, якая мела значную перевагу на Саборы. Дакрэты Сабору будуць апублікаваны ў пазьнейшым часе; праўда, ў недалёкім часе ўвойдуць у жыцьцё. Ужо з дасюлешняй працы Сабору відаць, што жывём на парозе новай эпохі ў жыцьці хрысьціянства.

Поўны агляд II Сэсіі Сабору адкладаем да наст. нумару.

**Белар. Карэспандэнт**

*Саборны фэльетон*

# Што Пётр і іншыя апосталы думаюць аб II Сэсіі Сабору?

(Інтэрв'ю Сьв. Лукі, Нябеснага Летапісца)

— Ты, сынок, Лука, зьвярніся перш да Паўла: ён — такі вучоны — вылажыць табе аб Саборы ўсё як на далоні.

ПАВАЛ да Пятра:

— Ах, Сымон! Я мушу табе «супрацівіцца ў твар». Як ты, будучы Пятром і трымаючы ключы Царства Нябеснага, баішся сказаць першае слова? А мы — толькі «іншыя Апосталы», а я — «найменшы»... Я ня буду за цябе гаварыць!

ПЁТР:

— Ну, добра! Пішы Лука, каб Біскупы чыталі, што я сказаў у сваіх двух Лістох, а пасьля ўсіх Апосталаў я яшчэ даскажу жывым словам. (Тут Павал пакруціў галавою).

ЯКУБ (Старшы):

— Я з сваім братам, як мы хадзілі за Хрыстом, дык вельмі баяліся, каб Сымон-Пётр не заняў лішне высокага месца. — Дык я і цяпер баюся, каб на Саборы высокія мітры і доўгія хвасты ня шукалі лепшых месцаў!

ЯН-БАГАСЛОЎ:

— «На пачатку было Слова...» Я вельмі ўцешыўся, што ПАПА ПАВАЛ VI на самым уступе прыпомніў і падкрэсьліў, што Айцы сабраліся на Сабор дзеля Хрыста — Бога нашага, бо інакш, дыскутуючы аб дыяканах і аб літургіі, маглі-б забыцца аб Хрысьце.

АНДРЭЙ:

— Я — брат Сымона-Пятра, дык мне вельмі дзіўна, што мае Грэкі ня прыслалі да Пятровай Сталіцы абсэрватара? Гэта быў-бы першы крок да злучэньня.

ФІЛІП:

— Добра кажаш, Андрэй! Помніш, як мы з табой паказывалі Грэкам Хрыста? (Іоан 12, 21—22). Дык і цяпер давай пакажам ім дарогу да Хрыста: «Слухайце, Грэкі! Трэба ісьці праз тыя дзьверы, ад якіх ключы трымае Пётр».

(Працяг на бач. 18)



Перад кожнай сэсіяй раніцай адбываецца ў Сьв. Пятра Літургія чародна ў розных абрадах, а пасьля ўрачыста выносіцца кніга Сьв. Эванэліі і кладзецца на аўтары. Для гэтага назначаюць важнейшых з ліку саборных Айцоў. Дня 14. X. 1963 быў вызначаны наш Уладыка Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар Беларусаў на выгнаньні. У ягонай асыстэнцыі былі два нашыя Сьвятары Беларусы — Протоіерей Уладзімер Салавей і Канстанты Маскалік. Для нас Беларусаў гэта было важнае здарэньне — публічнае перад Усесьветным Саборам прызнаньне і пашана для нашай Нацыі.

ТАМАШ:

— О, я быў вялікі маруда! Вельмі таксама замарудзілі Рэфарматары веры: добра, што хоць прыслалі абсэрватараў; але «багаслаўлёныя, што не бачылі, а паверылі» (Іоан 20, 29).

БАЎТРАМЕЙ:

— Я ўважаю, што лішне доўга баяліся белыя місіянеры дапусьціць каляровых сьвятароў да біскупства і кардынальства. Я-то ня меў яшчэ Сьвятога Духа, калі гаварыў: «Што можа быць добрага з Назарэту?»

— Цяпер іншая справа. Запішы мае словы, Лука! «Надыходзіць пара, калі чорныя, жоўтыя і чырвоныя будуць вучыць Італьянцаў, Гішпанцаў, Французаў і інш., як трэба верыць і любіць Хрыста».

МАЦЬВЕЙ:

— Мне здаецца, што Сабор малую ўвагу зьвярнуў на Жыдоў. Я ж напісаў першую Эванэлію для Жыдоў. І сам Хрыстос, пасылаючы нас на ўвесь сьвет, загадаў, каб мы прапаведывалі, «пачынаючы ад Ерусаліму». І Павал, Апостал Народаў, усюды пачынаў Эванелію ад Жыдоў.

ЯКУБ (Малодшы):

— Я таксама пісаў да 12-ці жыдоўскіх пакаленьняў. Я заклікаў іх да веры і ўчынкаў міласэрдзя. Жыды ў апошніх часох змылі шмат сваіх грахоў перад Богам, калі мільёны старых, жанчын і дзяцей былі замучаны. Чаму няма спэцыяльных місіяў для Жыдоў, каб прывесьці іх да Хрыста?
(Напр. у Нью-Ёрку і інш.). Гэта вельмі пільная справа Сабору.

СЫМОН ЗІЛОТ:

— Чаму слугі Божыя сьпяць, а слугі Антыхрыста будуюць з вялікім запалам пякельнае валадарства? А з усяго чалавецтва ахрышчана ледзь трэцяя частка, дый з тых нямала ў атэізме, іншыя лянівыя, ці блудзяць у веры... Хто ж запаліць агонь Хрыстовы? Хто раздзьмухае палымя пакуты, місіяў, ахвяры з сябе — за прыкладам Яна XXIII? Бо сам Хрыстос асьцерагаў: «Калі пакутаваць ня будзеце, усе разам загінеце!» Я, Апостал Хрыстовы, пільна паглядаю на Сабор у Рыме, калі загарыцца там гэты агонь — любоў Хрыстовая?

ІУДА ЯКУБАВЫ:

— З вялікай рупнасьцяй я пісаў у сваім лісьце, каб хрысьціяне захавалі веру. Я асьцерагаў, што «...ідзе Госпад з мірыядамі Сьвятых — учыніць суд над усімі і будзе дакараць бязбожных за ўсе ўчынкі бязбожнасьці і за ўсе жорсткасьці, што гаварылі на Яго. (Саб. Пасл. Іуды в. 15). Я думаю, што Сабор павінен моцна выступіць супроць бязбожнасьці.

ПАВАЛ:

— «Я — апошні з Апосталаў. Я нягодны называцца Апосталам, бо прасьледаваў Царкву Бэжую...» «Але я найбольш трудзіўся!» Я напісаў 14 Лістоў.
— Я пракананы, што найважнейшая справа для Сабору, каб усе народы навучыць і ахрысьціць, а пасьля ўжо іх пасьвіць: значыць, першая справа кожнага біскупа — Апостальства, а пасьля — Адміністрацыя. Я баюся, каб у практыцы гэтага ня пераставілі!

ПЁТР:

— Мір вам усім, каторыя ў Хрысьце Ісусе!

— Старшых сярод вас заклінаю я, сустаршыня і сьведка мукаў Хрыстовых... Пасеце Божае стада, якое ў вас, наглядаючы за ім не пад прынукай, але з добрай волі, ды ня дзеля агіднай карысьці, але дзеля ахвоты, і не пануючы над спадчынай, але даючы прыклад стаду, і калі зьявіцца Найвышэйшы Пастыр, дастанеце вянок славы, што не вяне (І. П. І. 1—4).

ПЁТР да Лукі:

— Усё, што ты, сынок, пачуў ад Апосталаў, верна запішы ў Нябесную Кроніку!

ЛУКА:

— Добра! Запішу ўсё і пашлю, каб надрукавалі ў часапісе «БОЖЫМ ШЛЯХАМ».

*а. Я. Гэрмановіч*

---

## «ДОБРЫЯ» РАДЫ БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЯЧОМ

(З нагоды Энскага Зьезду)

*Старшыні:* Моцна крычаць на памоцнікаў, кантроль пакідаючы Богу.

*Сакратару:* Кіраваць кіраўніком і хаваць ад яго ўсе сакрэты.

*Скарбніку:* Сьцерагчы, каб на рэвізію была каса поўная, а на будні — свая скарбонка ня пустая.

*Архіварыю:* Трымаць дакуманты ў парадку і сакрэце, апрача самых найважнейшых.

*Радактару:* Пісаць так, каб ніхто нічога не зразумеў і каб усе чакалі, што далей будзе.

*Чытачу:* Сьмейся, дзе ня трэба, бо дзе трэба, там... (тут рукапіс замазаны).

*Сьвятару:* Будзь сьвяты толькі на сьвята!

*Ігумэну:* Не кажы ніколі нікому, калі сам выходзіш з дому!

*Манаху:* Памагай ігумэну, калі ён нічога ня робіць.

*Параху:* Слухай біскупа уважна, а сваё рабі адважна!

*Вікараму:* Пажадай параху шчасьлівай сьмерці у сваёй добрай інтэнцыі!

*Біскупу:* Тройчы багаславі кажнага і не кажы яму нічога важнага.

*Вінцуку:* Пішы адважна — толькі аглядайся на радактара!

*В. Адважны*

# Дзяцел і Крот

(Байкі)

*Крот і дзяцел працавалі —*
*Той у лесе, той ў зямлі:*
*У апеку лес той бралі,*
*Дый знаёмы ня былі.*

*Вось аднойчы спазаранку*
*Віў наш дзяцел абаранку*
*Наўкруг дрэва — аж у дол. —*
*Ну, бо дзяцел — не арол!*

*Дзюба моцная як сталь:*
*Стукаў-грукў як каваль,*
*Тэлеграмы слаў наўкола,*
*А чырыкаў так вясёла,*
*Што аж крот, задзёршы нос,*
*Ад зямлі уверх падрос. —*

*Так спаткаліся,*
*Падзівіліся,*
*Прывіталіся,*
*Падражніліся . . .*

*Дзяцел кажа: «Ах, ты кнот!*
*Як завешся ты?»*
*«Я — крот».*

*«Ах, ты — той, што як чарвяк,*
*Точыш глебу, небарак?*
*Чуў я, што ты — вол рабочы —*
*Век гарэш у цёмнай ночы».*

*«А ты — дзяцел, верхалаз,*
*Пустазвон, казалі ў нас . . .»*

*«Глянь ты, крот, на Божы сьвет!*
*Май-вясна, зямлі расьцьвет:*
*Ў лесе птушак навасельле —*
*Ўся прырода у вясельлі».*

*А крот кажа: «Сьмех мне чысты!*
*Мы краты — матэр'ялісты.*
*О, заўзята мы працуем,*
*Хоць не бачым і ня чуем.*
*Я-ж не знаю пад зямлёю,*
*Што там зьверху нада мною?*
*Кажуць, што у небе дзесьці*
*Не даюць ні піць, ні есьці.*
*Былі-б чэрві, што там неба?*
*Больш нічога нам ня трэба!*

*Дзяцел крыкнуў: «Дурны зьвер!*
*Глянь хоць раз ты, мне павер:*
*Каб ты ўбачыў сьвет увесь,*
*Ты-бы ўміг у дол палез*
*І прывёў-бы усіхчыста*
*Тых кратоў-матэр'ялістаў,*
*Паказаў-бы ім красу. —*
*Дай — цябе я панясу!»*

*Дзяцел хап крата дзюбою —*
*Павалок яго з сабою!*
*Паказаў як на далоні*
*Сьвет увесь, лясныя гоні*
*Навакол, на права-лева,*
*На праблескі сонца ў дрэвах.*
*Кажа: «Чуеш? шум лясны —*
*Гэта музыка вясны . . .»*

*А крот кажа: «Што мне з тога?*
*Я не бачу анічога*
*І ня чую, і ня знаю*
*І да сэрца ня прыймаю».*

*Дзяцел кажа: «Справа — дрэнь!*
*Апусьціўся ты як пень:*
*Пад зямлёй заплюшчыў вочы —*
*Век ня выйдзеш з цёмнай ночы!»*

*Ці вы ўсе, матэр'ялісты,*
*Толькі есьці-піць артысты?*

1962

# БЫЧОК

*Бычок лысы так удаўся —*
*У падскоках гадаваўся, —*
*А голас ёмкі, закацісты, —*
*Куды там дзяк, ці арганісты!*

*Плячом да працы браўся шустра —*
*Аж ўсе валы ў яго як ў люстра*
*З жывою радасьцю глядзелі*
*І клалі ў ім свае надзеі.*

*Казалі: «Ён калісь пакліча*
*Да волі пакаленьне быча:*
*Паставіць нас ізноў на ногі,*
*Навострыць абламаны рогі!»*

*Расьце бычок як дуб*
*І розумам ня глуп.*
*Рыкае на ўвесь лес*
*І ў бойцы — Гэркулес!*

**(Заканчэньне на бач. 20)**

# Школа імя Сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане

Тыя, якія папробавалі ўзгадоўваць новае беларускае пакаленьне на чужыне, добра ведаюць, як цяжка ёсьць гэтая справа. Дзеля гэтага кожны пачын у гэтым напрамку ёсьць годным увагі і падтрымкі ўсяго нацыянальна сьведамага беларускага грамадзтва.

Адным з такіх пачынаў ёсьць Беларуская Школа для Хлапцоў імя Сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане, якая працуе там ужо трэйці год. Гэтая школа ёсьць адзінай на ўсім сьвеце, бо, у адрозьненьне ад шматлікіх сыботніх школак, яна зьяўляецца інтарнатам, дзе беларускія хлопцы з розных краінаў ня толькі вучацца, але стала жывуць разам у беларускай атмасфэры.

Распаложаная на ўскраіне Лёндану, на граніцы з маляўнічай правінцыяй Гартфэрдшыр, школа спалучае ў сабе ўсе выгоды і прыемнасьці «вясковага» жыцьця з блізкасьцю да вялікага культурнага цэнтру, якім зьяўляецца сталіца Англіі. Вялікі сад дае нязьлічоныя магчымасьці да гульняў на сьвежым паветры і да спорту.

Сама школа месьціцца ў прыгожым прасторным будынку. Усё тут уладжана па беларуску, пачынаючы ад Пагоні, якая вітае госьця пры самым уваходзе і канчаючы на беларускіх дзяружках, якімі ёсьць пакрытыя ложкі хлапцоў у спальнях.

Школа знаходзіцца пад кіраўніцтвам сьвятароў Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі. Мар'ян Гауз, сяліба Місіі, ёсьць насупраць школы, па другой старане дарогі. Акрамя сьвятароў, у школе працуе група сьвецкіх настаўнікаў і ўзгадаваўцаў. Гаспадыня, якая глядзіць за здароўем і матар'яльнымі патрэбамі хлапцоў, зьяўляецца кваліфікаванай мэдыцынскай сястрой.

Вучні праходзяць нармальны курс навучаньня ў аб'ёме ангельскай сярэдняй школы. Акрамя гэтага яны маюць лекцыі беларусаведы. Усе яны павінны здаваць матуральныя іспыты з беларускай мовы на Лёнданскім унівэрсытэце.

Такім чынам, атрымоўваючы добрую асьвету, якая дасьць ім у будучыні магчымасьць заняць адпаведнае месца ў грамадзтве ў той краіне, дзе яны маюць жыць, вучні школы сьв. Кірыла ня толькі ня трацяць сваей нацыянальнай апрычонасьці, але, наадварот, вучацца любіць і шанаваць ўсё беларускае і быць гордымі з свайго беларускага паходжаньня.

Кіраўніцтва школы слушна ўважае, што яно ня мае права марнаваць даных магчымасьцяў і дзеля гэтага павінна імкнуцца ўзгадоўваць толькі поўнавартасных адзінак як інтэлектуальна, так і маральна. Дзеля гэтага вялікая ўвага зьвяртаецца на рэлігійнае і маральнае ўзгадаваньне вучняў.

Сяньня яшчэ рана гаварыць аб посьпехах школы сьв. Кірыла. Трэба аднак зазначыць, што яна мае ўжо вучняў ня толькі з Эўропы, але і з Амэрыкі. Ёсьць нават адзін паўнакроўны ангелец, які разам з іншымі, вучыцца беларускай мовы!

Вучні Школы сьв. Кірыла ў прыгожых нацыянальных строях ужо няраз ажыўлялі сваей прысутнасьцю і выступамі беларускія сьвяткаваньні. Іхні хор, ня гледзячы на кароткае існаваньне, заслужыў ужо на прызнаньне ад усяго тутэйшага беларускага грамадзтва. У школе памысна працуе драматычны гурток і ёсьць пачаткі сваей аркестры.

Што робяць вучні ў свабодны ад заняткаў час? Гэта залежыць ад асабістых зацікаўленьняў кожнага хлопца. А зацікаўленьні іхнія вельмі разнастайныя, ад валейболу і будовы «дзікарскіх» хатаў на дрэвах і канчаючы на канструкцыі радыяпрыёмнікаў і дасьледваньні астаткаў гарадзкіх муроў Лёндану, збудаваных за рымскіх часоў...

Будучыня пакажа, як далей разаўецца школа сьв. Кірыла. Мы з свайго боку пажадаем ёй, каб сталася кузьняй беларускага духу у вольным сьвеце.

*а. А. Надсон*



*І штораз болей піў і еў,*
*І ўжо з бычка ён стаў валом,*
*І ледзь улазіць стаў у хлеў*
*І біты быў калом...*

*А карк ў яго згрубеў,*
*Як мех жывот абвіс:*
*Бычок абараней —*
*Раскіс. —*

*З жыцьця тут прыклад ўзяты:*
*І ў нас студэнты, як цяляты,*
*Растуць; а што з іх будзе?*
*Што-ж?.. мяса, або — людзі.*

**В. Адважны**

# Безабаронная - магутная абаронца

У парахвіяльнай салі толькі што скончылася вельмі цікавая і займаючая зборка. Людзі не сьпяшаліся выходзіць, бо кожнаму яшчэ хацелася падзяліцца сваімі думкамі з іншымі.

Новы парах, які праводзіў зборку, ня ўсьпеў выйсьці з-за стала, як яго акружаў гурт старэйшых жанчын; яны спачатку нібы прыслухоўваліся, што гаварылі мужчыны, але хутка іх адсунулі на бок і яшчэ хутчэй перавялі гутарку на тэму, якая зусім ня была прадбачана ў праграме зборкі.

— Вось бачыце, усе прышлі, а гэтая ня прыйшла — казала адна.

— Дзе яна табе сюды прыйдзе, — дадавала другая. — Каб вы паглядзелі, як яны жывуць, аж брыдка гаварыць.

І якраз аб гэтым брыдкім загаварылі, ды яшчэ як: так-жа наперабой. Парах быў спробаваў спакойна спыніць гэткую гутарку, ды дзе там! Тады ён загаварыў мацней:

— Дрэнна, калі тут так дзеецца, як вы кажаце.

— Ды яна-ж . . . — Разагналася першая жанчына, каб яшчэ дакінуць нейкае салёнае слаўцо сваёй суседцы, але так і не дагаварыла гэтага слова. А спыніла яе на паўслове малая дзяўчына.

Калі жанчыны тараторылі каля стала, гутарка ў іншых гурткох крыху прыціхла, толькі часам сёй-той перакідваўся словам аб тым, што гаварылі жанчыны каля стала. Толькі адна кволая шасьцігадовая дзяўчынка не далучалася да ніякага гуртка. Яна прытулілася да вушака выхадных дзьвярэй і немым позіркам сачыла за жанчынамі, якія гутарылі ля стала, бо яны гаварылі аб . . . яе маці. Ды што гаварылі? Выцягвалі на дзённае сьвятло даўно мінулыя падзеі, аб якіх яна амаль нічога ня ведала. Тыя разгалёканыя кабеты, ганебна брудзілі яе дарагую маму, таптал ў балота яе найлепшую і найдабрэйшую матулю . . . I ніхто з прысутных не казаў ніводнага слова абароны. Дык што-ж яна кволая, бясьсільная магла зрабіць, як яна магла абараніць сваю дарагую маму?! I бацька сюды ня прыйшоў, а казаў-жа рана, што прыйдзе . . .

Горкі жаль моцна сьціснуў сэрца малое дзяўчынкі, заміргалі яе павекі і росныя сьлёзы пакаціліся па яе анельска-чыстым і прыгожым абліччы — яна заплакала. Спачатку ціха, ціха; потым галасьней і галасьней.

— Хто-ж гэта плача? — Пацікавіўся нехта, што стаяў побач.

— Гэта-ж «яе» дачка.

У салі запанавала цішыня, нейкая магутная цішыня. Бясьсільны плач маленькае дзяўчынкі нейкаю нявымоўнаю сілаю адбіваўся магутным рэхам у сэрцах прысутных і спыніў на паўслове ўсе каверзы з вуснаў абмоўніцаў.

Маўчаньне трывала нядоўга. Парах і шмат хто з прысутных кінуліся да малое і пачалі яе суцяшаць, а тымчасам жанчынам ля стала быццам рот замуравала.

Дзяўчынка не прамовіла ні слова. Ніводнага, нават самага маленькага слова! Яна не пагражала, не дакарала нікога. Яе крыштальна-чыстыя сьлёзы быццам змывалі бруд з яе маці. І ніхто больш ня важыўся шпурнуць брудным словам у постаць яе маці, абмытую нявіннымі, бясьсільнымі сьлёзамі.

**А. Жменя**

---

ПІСЬМЫ У РЭДАКЦЫЮ.

Паважаная Рэдакцыя!

Даведаліся мы, Амэрыканцы, што Вы там у Лёндане намерыліся выдаваць «Божым Шляхам»: гэта вельмі пацяшаючы намер і вельмі важны і патрэбны. «Божым Шляхам» зьместам і з боку моўнага зьяўляецца найпаважнейшым беларускім часопісам і ня толькі на эміграцыі. Дасюль ня было там калечаньня беларускай мовы. Чытаць было лёгка і ўсё зразумела, чым аднак ня ўсе нашыя часопісы могуць пахваліцца.

Дай, Божа, каб сапраўды зьявіўся гэты часапіс, бо на нашым гарызонце рысуецца шмат здарэньняў, каторя просяцца талкова, ясна і правідлова іх паясьняць і занатовываць, а такая недахватка сонца праўды!

У нас у Чыкаго 17 і 18 лістапада ідзе выстаўка падобная да тае, якую Вы бачылі (а. Я. Г.), а 28-га гэтага лістапада пачынаюцца ў нас так званыя «студыі». Праграму далучаю. Як там будзе, напішу.

Хай Бог дапамагае Вам у працы!

З пашанаю

*Я. Чарнэцкі.*

---

РЭДАКЦЫЯ ІНФАРМУЕ:

*Уладыка Часлаў Сіповіч,* пасьля сваіх выбараў на Генэрала Айцоў Марыянаў, стала прабывае ў Рыме. Адрас: (Italy) Italia, Via Corsica 1.

*Сп. Я. Чарнэцкаму:* Вельмі дзякуем за прысланае! Чакаем на абяцанае: не забывайце нас.

*Рэдакцыі «ВЕХІ»:* Нр. 10-ты атрымалі. Дзякуем! а. Язэп Г. надта дзякуе за моцную крытыку і просіць прысладь аповесьць «Пушча Шуміць» на абмен.

